Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 18 (69). Вільня, Серада 23 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Чужымі рукамі жар заграбаць.

Апошняй навінай з беларускага жыцьця пад Польшчай, ёсьць тое, што ўрад ад пачатку 1927-28 школьнага году маніцца зрабіць давучальны курс для часткі безработных вучыцялёў даўнейшых школ расейскіх, знаючых беларускую мову.

Усялякія пачыны ўлады ў кірунку паляпшэньня долі Беларусаў мы можам спатхаць з вялікай спагадай, але апошні пачын шыты за многа белымі ніткамі, дык адразу відаць, што тут нешта ня тое, што тут ня ідзе аб паляпшэньне долі Беларусаў, ня ідзе аб беларускія вучыцельскія курсы. Ужо сам пачатак паведамленьня Віленскага Куратара пахне нечым не беларускім, бо ў ім гаворыцца толькі аб курсах для часткі безработных вучыцялёў даўнейшых дзяржаўных расейскіх школ. Дык бачым, што перадусім курсы робяцца не для таго, каб прыгатаваць беларускіх настаўнікаў для беларускіх школ, а для таго, каб даць працу частцы безработным. Мала гэтага, ў цэлым паведамленьні няма на'т і ўспаміну аб беларускіх вучыцялёх для беларускіх школ. Можна сьмела думаць, што гэта маюць быць польскія вучыцяльскія курсы для вучыцялёў, якія троха знаюць беларускую мову, каб ня трэба было іх давучваць беларусаведзтва, якое пажадана на'т для вучыцеля польскай школы, бо аб гэтым гавора і слаўны цыркуляр п. Бартля.

Пры прыйме на курсы першынство будуць мець незаможныя кандыдаты. Вось гэты варунак таксама як і мэты курсаў, паданыя ў самым пачатку паведамленьня куратара, пацьвярджаюць толькі наш вывад, што ня ходзіць тут аб беларускія школы, толькі аб нейкую, на першы пагляд, незразумелую дбаласьць польскіх уладаў аб долі нашых безработных вучыцялёў, якія ўжо 7 год сядзяць бяз працы, бяз хлеба. Гэта-ж ня так даўно гэты самы віленскі куратар зусім не прызнаваў таго факту, што наагул у Заходняй Беларусі істнуюць безработныя беларускія вучыцялі; яшчэ ня так даўно, бо перад Калядамі, віленскі куратар ня даў дазволу Інстытуту на 6-цімесячныя беларускія вучыцельскія курсы, а тут раптам сам адчыняе курсы ды хоча сабраць найбяднейшых безработных. Каб зразумець гэтую дбаласьць польскіх школьных уладаў аб долі беларускіх безработных вучыцялёў, трэба здаваць сабе справу з таго, што дзеецца ў Польшчы і што мае дзеяцца. Вось арышты—гэта адна прычына гэтай нязвычайнай апекі, а выбары ў самаўрады і ў Сойм гэта другая прычына. Зусім быццам добра абдумана: трэба беларускіх безработных вучыцялёў забраць на 9 месяцаў з вёскі, патрымаць у бурсе, паўчыць польскай мове і наагул іншым рэчам, якія патрэбны для вучыцеля польскай школы, а пасьля залічыць іх „практыкантамі на варунках кантрактовых вучыцялёў“. Вучыцель мусіў скончыць сэмінарыю, мусіць мець 2 гады вучыцельскай працы ў дзяржаўнай школе, мусіць сядзець цэлы год на курсах, што ладзіць куратар, а пасьля як нагарода за ўсё гэта даюць яму пасаду практыканта; пасьля-ж практыкі, ёсьць ведама, пашоў у безработныя. Больш дзіўнага, трудна, каб і хацеў, не прыдумаеш.

Вышэй паданыя сказы характарызуюць адзін бок значэньня курсаў, глянем яшчэ на другі. Хоць ува ўсім паведамленьні няма нічога аб курсах для беларускіх вучыцялёў, хто будзе іх вясьці, хто будзе вызначаць лектараў і кіраўніка? Польскія ўлады. Ці-ж польскія ўлады, што так варожа заглядаюцца на беларускі адраджэнскі рух могуць прыгатаваць сапраўдных вучыцялёў для беларускіх школ?! Гэта ўсё роўна, што Пурышкевіча цар прыслаў-бы на польскія землі арганізаваць польскія школы. Вось цяпер, польскі куратар бярэцца за такую працу вучыць Беларусаў без Беларусаў, усё роўна, што чужымі рукамі жар заграбаць. Пэўне-ж вынікі такой працы можна лёгка прадбачыць: будуць яны роўны вынікам тых курсаў, што ўжо былі год таму назад, якія былі наладжаны ўладамі разам з Паўлюкевічам.

## Прамова пасла Ярэміча

### ў Сойме, пры дыскусыі над бюджэтам.

Высокая Палата! Трудна мне сягоньня тут будзе гаварыць, бо сапраўды, прыходзіцца гаварыць пры кожнай магчымасьці адное і тое самае, аб тых самых балячках і тых самых жалях і ў канцы ніякай папраўы а мо' нават яшчэ пагоршаньне з кожным дзень выяўляецца. Дык трэба толькі паўтарыць і далучыць іншыя факты. Сягоньня абмяжуюся да таго, што аб гэтых фактах буду гаварыць найменш. Хачу толькі сказаць, што памаёвы ўрад, які паўстаў пад лёзунгам маральнай санацыі (аздараўленьня), сказаў, што прыходзіць да ўлады праз рэволюцыю і праз разліў крыві. А дзеля таго толькі, што ў Польшчы да гэтага часу вельмі шмат рабілася няпраўнасьцяў, вось і Беларускі Народ, якога сыны таксама лілі сваю кроў на вуліцах Варшавы, бо былі ваякамі, думаў, што фактычна гэныя лёзунгі, якія былі кінуты перад абняцьцем улады, будуць хоць у мінімальнай (найменшай) часьціне споўнены. Прайшло ўжо некалькі месяцаў і ўрад агулам у пытаньні нацыянальных меншасьцяў, а паасобку беларускай, нічога не сказаў, што маніцца рабіць і нічога не зрабіў.

Магу сканстатаваць (сьцьвердзіць), што тое, што было да траўня благім, з памаёвых дней сталася яшчэ горшым. Бачым тое самае надужыцьце паліцыянта, канфідэнта, адміністрацыі, відзім тыя самыя катаваньні, як гэта нядаўна здарылася ў Навагрудку, відзім тыя самыя правакацыі, якія былі раней. Урад і паасобныя адзінкі бліжэй стаячыя пры ўрадзе кажуць: прашу Паноў, але мы ўсе робім, каб толькі зьніштожыць благое ў адміністрацыі, мяняем пэўныя адзінкавыя асобы, але гэтыя адзінкавыя якіх зьмяняюць, фактычна трафляюць у тую самую атмасфэру (паветра), аб якой учора гаварыў пан міністар Мэйштовіч, бо калісь быў у Польшчы міністар бяз даты, а сягоньня ёсьць міністры атмасфэры. Дык вось, калі раз тыя паны ўскочылі ў гэную атмасфэру, робяцца такімі самымі, якімі былі іхнія папярэднікі. Зьмяняюцца, праўда, у некаторых ваяводствах людзі, але не зьмяніўся палітычны кірунак у адносінах ва нас. Гэты кірунак вытнуты яшчэ ў 1920 годзе панам Грабскім: усё што зьяўляецца беларускім зьніштожыць, скалянізавець і спалянізаваць, трымаецца і сягоньня. Гэтай дарогай цягнімся да сёняшняга дня і памаёвы ўрад не зьмяніў гэтага кірунку і не маніцца яго зьмяніць, як бачым, бо мы ня чулі заяўленьня ўраду, ані Рады Міністраў, ані паасобных міністраў, ані пана прэм'ера з гэтай высокай трыбуны, які бы выразна сказаў, што нарэшце Беларусам можна і чаго ня можна. І вось відзім учарашнюю гісторыю: два тыдні перадтым „Грамада“ было легальнай партыяй у Польшчы і за тымі, якія належалі да гэнай партыі пракуратарскі ўрад не ганяўся, але раптам нешта зрабілася, нейкаму ці міністру ўнутраных спраў, ці пракуратару не ўспадабалася і ён сказаў: за тое, што вы належылі да легальнай партыі мусіце быць каранымі. Але чаму пан міністар не скасаваў гэтай партыі, калі яна ня мела права істнаваць. Дык за тое, што сягоньня было можна, заўтра (за гэна самае) мусіць ісьці на некалькі гадоў у цяжкі вастрог. І вось гэта сыстэма ўрадаваньня. Тут, прашу Паноў, ня буду вылушчаць тых вядомых шматмасовых прыкладаў, проста вартых кары, але хачу даць адзін прыклад, як урадуюць паны ваяводы на т. званых Крэсах. Вось, пане Міністар, у вёсцы Лаварышкі, у віленска-троцкім павеце нядаўна адзін з паліцэйскіх — вельмі мне прыкра аб гэткіх рэчах гаварыць, але гэта рэчы якія варты кары — прыставаў да аднэй дачкі селяніна Васілеўскага, а калі нічога не дабіўся, прышоў на пастарунак, афіцыяльным спосабам прыцягнуў гэтую дзяўчыну этапам, даставіў яе ў абычаёўку закінуўшы, што яна заразіла яго вэнэрычнай хваробай. Аказалася, штс яна ня толькі ня была хворай, але яшчэ дзявочая. Паліцыянт тады сказаў, што гэта не яна, што ён абмыліўся, што памыліўся ў імені, што гэта яе сястра і гэтую самую цэрэмонію зрабілі з яе сястрой.

Пане Міністар, можа пан зразумее, якая маральная кара была для таго бацькі і для тых дачок! Будучы на вёсцы яны ніколі не маглі найсьці справядлівасьці; прышло да таго, што я мусіў пайсьці ўжо не да старасты, але да пана ваяводы, а нягледзячы на гэта да сёньняшняга дня ёсьць той паліцыянт, нават у тэй самай воласьці.

Прашу паноў, ці гэтак можна, каб пан староста, які ўрадуе, які мае надзор у павеце, каб праз некалькі месяцаў ня знаў аб такіх рэчах? Аднак так ёсьць. Мог-бы я, прашу паноў, шмат гэткіх фактаў тутака падаць, але не хачу, бо ня маю на гэта часу і не хачу болей карыстаць Вашай панскай цярплівасьцяй, але гэтыя рэчы не зьмяніліся і ідуць так, як ішлі дагэтуль.

Вось, прашу паноў, я сягоньня тут чуў вельмі гарачага абароньніка, п. кал. Ільскага, які сказаў, што Польская Дзяржава знаходзіцца ў небясьпецы, што нацыянальныя меншасьц

# Памяці д-ра Яна Басановіча.

Патрыярх Адраджэньня Літоўскага Народу д-р Я. Басановіч памёр у Літоўскай Клініцы 16-га лютага а 6 гадз. 50 мін., у веку 75 гадоў.

У нядзелю 20 г. м. цела памёршага перанесена ў катэдру, дзе на другі дзень а 9 гадз. 30 мін. адбылося жалобнае набажэнства. Імшу адпраўляў арцыб. Яблжыкоўскі. Пасьля набажэнства, цела с.п. д-ра Я. Басановіча пахавана на Россе.

На хаўтуры сабралася ўсё літоўскае мясцовае грамамадзянства, студэнты і вучні, а таксама прыехалі госьці з Незалежнай Літвы. Шматтысячны народ, што ішоў за труной Вялікага і дарагога сына Літоўскага Народу, зложаны з прадстаўнікоў усіх мясцовых нацыянальнасьцяў, з больлю ў сэрцы аддаваў апошнюю паслугу с. п. д-ру Я. Басановічу.

* * *

Зусім нядаўна, бо ўсяго 23 лістападу лет. году літоўскі народ сьвяткаваў 75-ыя ўгодкі нарадзінаў і 50-ыя ўгодкі працы свайго патрыарха, вялікага дзеяча і вучонага д-ра Яна Басановіча, якому яшчэ пры жыцьці пастаўляны быў памятнік у Коўне. А вось 21 г. лютага, ужо мёртвае цела, гэтага чалавека, ў якім жыў вялікі дух, які яго пакінуў каб разліцца па ўсяму літоўскаму народу—засыпаюць зямлёю ў халодную дамавіну на магільніку Росса ў Вільні.

У сувязі з гэтым, дзеля таго, што нябошчык д-р Басановіч быў вялікім прыяцелем і нашага толькі-што адраджаючагася Беларускага Народу, мы аддаючы яго целу апошнюю пашану хочам пазнаёміць наш народ з тою працаю, якой аддаючыся нябошчык д-р Басановіч, дык і падаём некалькі нарыскаў з яго вялікага жыцьця, каб яно сталася найлепшым прыкладам і для нашых працаўнікоў на роднай ніве беларускай.

Радзіўшыся ў 1851 годзе ў вёсцы Ашкабалях на Сувальшчыне, д-р Басановіч навучыўся літоўскай грамаце ад вясковых грамацеяў і перайшоў у школу да Лукшаў, а потым у Марыямпаль у гімназію, якую прайшоў з сярэбраным медалем у 1873 годзе.

Па заканчэньні сярэдняе адукацыі д-р Басановіч вучыўся ў маскоўскім унівэрсытэце спачатку на гістарычна-філялёгічным факультэце, а потым перайшоў на мэдыцынскі факультэт. Скончыўшы унівэрсытэт у 1879 годзе атрымаў лякарскі дыплём.

Па сканчэньні ўнівэрсытэту д-р Басановіч па запросінах баўгарскага ўраду паехаў у Баўгарыю, а адтуль, у навуковых мэтах, езьдзіў у Вену і Прагу. Але ня мог там заседзіцца, ён рваўся ў родную Літву, каб аддацца працы на карысьць роднага літоўскага народу.

Тагды толькі пачынаўся будзіцца літоўскі народ, дык працы было шмат, але-ж дзеля таго, што расейскі ўрад не даваў магчымасьці працаваць, дык д-р Басановіч пераехаў у Прускую, гэтак званую Малую Літву, дзе незважаючы ні нашто выдае і рэдагуе газэту „Aušra" (Зорка), як агульна-літоўскую нацыянальную часопісь, адтуль ужо пачынаецца запраўдны літоўскі адраджэнскі рух.



Радзіўся 23 лістапада 1851 г. — памёр 16 лютага 1927 г.

Часопісь „Aušra" адыграўшая ролю ў літоўскім адраджэньні, як у нас „Наша Ніва", разыходзілася ня толькі ў прускай часцы Літвы, яна кантрабандным парадкам, цераз пасярэдніцтва заснаванага д-рам Басановічам таварыства „Прыхільнікаў Літвы" пранікала і ў расейскую частку Літвы і тут таксама рабіла сваю справу.

Тагды ўжо д-р Басановіч становіцца павадыром літоўскага руху на шляху імкненьня да ўжыцьцяўленьня і зьдзейсьненьня нацыянальнага Ідэалу — Незалежнасьці, ці — ўласнай Дзяржаўнасьці, на пачатку чаго літоўскі зьезд, які быў скліканы па ініцыятыве д-ра Басановіча ў 1905 годзе, названы „Вялікім Соймам" выставіў дамаганьне шырокай аўтаноміі. Але ўжо ў часе нямецкай акупацыі, калі было нешта створана ў падабенстве на аўтаномію, д-р Басановіч не задавальняецца гэтым, а дамагаецца незалежнасьці, дзеля чаго ў склад аўтаномнай „Тарыбы" ня ўходзіць і ў яе працы ўдзелу не бярэ.

Яшчэ аж у 1907 годзе д-р Басановіч заснаваў Літоўскае Навуковае Таварыства ў Вільні, дзе заняў пачэснае мейсца яго старшыні, з якое пасады зьмясціла яго толькі сьмерць.

Паважаны ўсімі партыямі, як найвялікшы аўтарытэт сярод Літвіноў, сваім уходам у іншае жыцьцё, д-р Басановіч прычыніў вялікі смутак усяму літоўскаму народу і мы таксама ўваходзім у гэтую жалобу, жадаючы целу д-ра Басановіча легкай зямелькі, а літоўскаму народу шчаслівай будучыны.

### Прыезд дэлегацыі з Літвы.

20 г. лютага каля 18 гадзіны прыехала з Коўна ў Вільню дэлегацыя ковенскіх грамадзкіх арганізацыяў з мэтай узяць удзел у жалобных абрадах. Склад дэлегацыі гэткі:

Міхал Біржышка — рэктар Ковенскага Унівэрсытэту: д-р Ёкантас — быўшы міністар асьветы; інжынер Сьцяпан Кайрыс—пасол у Сойм, быўшы віцэмаршалак, Ян Вілейшыс—бурмістр м. Коўна, праф. Зыгмунт Жэмайтіс, дзекан матэматычнага аддзелу, праф. Тамашайтіс, кс. прафэсар Тумас, Туроўскі — пасол у Сойм, праф. Янушайтіс, п. Чыбурас — прадстаўнік унівэрсытэцкай моладзі, артысты оперы Грыгайціс і п. Садэйко, а таксама сваячка нябошчыка п. Шарэйко-Басановіч.

Іншым дэлегатам, якія меліся прыехаць польскі ўрад ня даў дазволу на прыезд.

### Спачувальныя тэлеграмы.

Ужо некалькі дзён са ўсіх бокаў прыходзяць у Літоўскі Часовы Нацыянальны Камітэт у Вільні спачувальныя тэлеграмы. Між іншым атрымана сьцяг тэлеграмаў ад Літвіноў з Амэрыкі, Рыму, Рыгі, Дзьвінску, Кракава і з іншых мясцоў.

Пераслаў тэлеграму таксама і віленскі ваявода п. Рачкевіч.

Што гадзіна надходзяць новыя тэлеграмы.

### Уражаньні ў Літве.

Ува усей Літве абвешчана на пяць дзён жалоба.

У апошні чацьвер было паседжаньне Габінэту Міністраў. На гэтым паседжаньні прызнана абвясьціць на Літве пяцідзённую жалобу.

Сьцягі перапаясаныя жалобнымі стужкамі былі разьвешаны ў часе ад 17-га да 21-га лютага. У гэты дзень хаўтуроў быў затрыманы рух па ўсей Літве ў працягу аднэй мінуты.

Стварыўся хаўтурны камітэт з прадстаўнікоў грамадзянства ў які ўвайшоў таксама міністар асьветы Яг. Бістрас і дырэктар міністэрства зямельных справаў Яг. Енінас.

### Надзвычайнае паседжэньне Ковенскай Местовай Рады.

У чацьвер 17 г. мес. у Коўне было паседжаньне местовай Рады, на якім бурмістр места Ян. Вілейшыс павядаміў аб сьмерці д-ра Яна Басановіча. На прапазыцыю старшыні Рады п.

---

in corpore (усе) процідзяржаўнікі, пераваротнікі і г. д. і г. д. А я запытаюся п. кал. Ільскага з гэтага боку Палаты, ці гэта ня Вы зьяўляецеся маральнымі вінавальнікамі таго, што цяпер робіцца, ці гэта ня Вы глёрыфікавалі (выслаўлялі), тыя ўсе надужыцці паліцыі, гэныя разбоі і катаваньні, ламаньне Конституцыі і інш. Гэта Вы, ласьне глёрыфікавалі гэта і цяпер зьбіраеце вынікі таго, што пасеялі, бо праўду кажуць, што хто пасее вецяр, то зьбярэць буру. Гэта Вы Паны зрабілі тое, што вашыя пупілі (гадунцы) у міністэрстве ўнутраных справаў рабілі гэдыя вартыя кары рэчы, гэта вашыя пупілі старасты і ваяводы рабілі гэныя рэчы паводле наказу пана Станіслава Грабскага. Я, як беларускі патрыёт цешуся з гэтага, бо Вы памагаеце нам рабіць нашую працу. Вы нас багатэлізавалі (не зьвярталі ўвагі). Вы нас пераацучаеце праз агонь, молат і кавадла і вось мы гартуемся. Сягоньня зьяўляемся мы сілай, якой Вы пачынаеце баяцца і пачынаеце крычаць: „што гэта робіцца?! Але гэта нічога ня шкодзіць нам. Думаеце, што надта баёмся, што некалькі сотак нашых людзей пашло ў вастрог? Не, бо яны там навучацца змагацца. Вы вось таксама ішлі на Сібір і адвавалі сабе незалежнасьць. І я не баюся таго, што нашыя людзі будуць сядзець у казаматах бо гэткім манерам мы самі адваёўваем сабе незалежнасьць (Голас з права: панскіх вывадаў ня трэба вельмі сур'ёзна трактаваць). Можа пан зусім іх не трактаваць ані ў сур'ёз, ані ня ўсур'ёз, я іх так трактую і маю права так іх трактаваць, а Ваш сказ мяне не абходзе.

Калі возьмем самаўрадавыя ўставы дык і тут бачым, як правіца і лявіца ўвесь час таргуюцца толькі аб тым, каб зрабіць розныя фарткі і розныя камбінацыі, розныя галіцыйскія кляўзулі, каб усялякім спосабам не дапусьціць да самаўрадаў Беларусаў.

Прашу Паноў, ня гледзячы на тое, што ўсе крычаць аб гэтых самаўрадах, мы іх ня маем. Але сягоньня гутарым аб тэй самаўрадавай уставе, якая ляжала столькі гадоў у Сойме, бо ня было ўгавору паміж правіцай і лявіцай, але на астатак правіца і лявіца пагадзіліся на аднэй толькі рэчы, каб не дапусьціць да самаўраду нацыянальныя меншасьці і адным артыкулам, які, радобна праўдзе, будзе прыняты, перачыркнута нам увесь самаўрад, бо кажуць, што войт і яго заступнік, каб быць войтам, мусіць умець чытаць і пісаць папольску. Дык я спытаюся, дзе-ж былі польскія школы не кажу ўжо аб беларускіх, але дзе былі польскія школы за расейскага часу. Адкуль той Беларус мог навучыцца папольску чытаць, пісаць?! Гэта адно, а падругое, дзе ёсьць крытэрыюм, хто будзе экзамінаваць таго пана які будзе войтам? Дык будзе яго экзамінаваць пан староста. Калі ён будзе яго пупількам, дык ён скажа, што досіць уладае, але калі ён будзе няпрыгодны для яго, дык скажа ня досіць уладае польскай мовай у слове і ў пісьме, дык і ня можа быць войтам. А з гэтага вынікае, што мы Беларусы самаўрадаў мець ня будзем. Прашу Паноў, ёсьць некаторыя камісіі і лекары пэрсанальна заклканыя міністэрствам унутраных справаў, пры прэзыдыуме Рады Міністраў, якія шукаюць спосабаў лячэньня гэтых нешчасьлівых Беларусаў і Украінцаў. Якім спосабам вырашыць гэныя справы? Прашу Паноў, я Паном скажу адну рэч: ня трэба ніякіх лекароў, але трэба радыкальнай зьмены ў палітыцы, зьмены лініі дзейнасьці, якая была выткнута ў 20 г. у трактаваньні беларускіх грамадзян Палякамі; не прызнаваць іх за подлейшага сорта грамадзян, даць ім належныя правы, тое, што ім сапраўды належыцца: школу, самаўрад; дапусьціць да адміністрацыі і тады толькі зьменяцца трохі адносіны. Хоць тое, што ўрады дагэтуль зрабілі ў Польшчы, выкапала гэты вялікі роў, не паміж урадам, а паміж грамадзянствам польскім і беларускім і тут трэба польскай дэмократыі, якая, веру, што прыдзе можа але ня сёнешняя, трэба будзе ей доўгіх гадоў, каб засыпаць гэны роў. Сягоньня кажаце, каб толькі даць якія небудзь ахлапы, магчыма выцягнуць з тых зямлянак, у якіх ад шасьці гадоў да сягоньняшняга дня жывуць яшчэ, а тады Беларусы будуць задаволены. Няпраўда. Мы жадаем ня толькі эканамічнай папраўы, мы жадаем ня толькі школаў, але і поўных палітычных праваў. Паны вельмі мыліцеся дапушчаючы, што калі толькі дадзеце нам якія небудзь ахлапы, дык тым самым задаволіце нас. Задаволе часткова нас толькі тады, калі сапраўды будзем грамадзянамі і калі мы здабудзем сабе належныя нам палітычныя, эканомічныя і культуральныя правы. І вось гэта будзе тая направа. Калі гэтага ня будзе, дык і супакою на Крэсах ня будзе і той тэрор, які сёньня праводзіце нічога не паможа, гэныя канфіскаты часопісяў, гэнае саджаньне ў вастрог нічога Вам не паможа.

Я ў бюджэце міністэрства ўнутраных справаў нічога ня бачу, каб нешта ішло ў гэтым кірунку паправы і дзеля таго ад імя ўжо ў даным прыпадку не Беларускага Клюбу, бо клюбы былі два, але ад імя ўсяго Беларускага Народу заяўляю, што будзем галасаваць проці бюджэту мін. унутраных справаў.

